

Інфармацыйны бюлетэнь

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

№ 2 (29) • 2007

BirdLife INTERNATIONAL



Фота Ігара Бышнёва

## У НУМАРЫ:



Тыдзень птушак у Брэсце - с. 3



Начныя жыхары лясоў - - с. 4



Выратуем альбатросаў - с. 6



“Зачарованные болота” на наших экранах - с. 7

## "ПАЛЯВАННЕ НА ПТУШАК УВЕСНУ ЛІЧУ АМАРАЛЬНЫМ"

У "Звяздзе" за 23 лютага пад рубрыкай "А я лічу так!" быў змешчаны матэрыял "Забарона веснавога палявання на птушку - абсурд". У ім напярэдадні чарговага веснавога сезона палявання свой пункт гледжання выказаў кандыдат біялагічных навук, загадчык сектара паляўніцтвазнаўства і рэсурсаў паляўнічай фауны Інстытута заалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Тышкевіч. Як вынікае ўжо з назвы публікацыі, яна была ў падтрымку правядзення палявання ў сёлетнім сезоне.

З процілеглым меркаваннем у рэдакцыю звярнуўся Аляксандр Вінчэўскі, які прывёў шэраг аргументаў на карысць забароны веснавога палявання на птушак.

- "Забарона веснавога палявання на птушку - абсурд", а страляць птушак, якія перажылі зіму, драпежнікаў, хваробы падчас іх пералёту да месцаў размнажэння, шлюбных танцаў у час кахання - гэта верх гуманнасці і перамога здаровага сэнсу? Уся Еўропа, уключаючы Украіну, адмовілася ад палявання на птушак падчас міграцыі да месцаў размнажэння і ў гнездавы сезон. У Беларусі ж нават летась, калі Інстытут заалогіі рэкамендаваў забараніць веснавое паляванне на вадаплаўную птушку, яго не забаранілі.

*Працяг на стар. 2*

# "ПАЛЯВАННЕ НА ПТУШАК УВЕСНУ ЛІЧУ АМАРАЛЬНЫМ"

*Працяг, пачатак на стар. 1*

І не з-за мясцовых паляўнічых, як сцвярджае Уладзімір Тышкевіч, а з-за "вялікіх грошай", якія вязуць заходнееўрапейскія паляўнічыя ва унікальную еўрапейскую краіну, дзе ўвесну можна пастраляць нават у нацыянальных парках, - сцвярджае Аляксандр Вінчэўскі. - Большасць не толькі нашых арнітолагаў, але і нашых жа паляўнічых за забарону веснавога палявання ў Беларусі. Колькасць усіх птушак, на якіх дазволена паляванне, зніжаецца. Скажам, па некаторых відах яна складае 5-6 тысяч пар. Большасць цяперашніх паляўнічых не адрозніваюць розныя віды птушак, і страляе птушак іншых відаў, у тым ліку і "чырванакніжнікаў", як я сам не аднойчы бачыў. Увесну перад размнажэннем такія "выпадковыя" страты мацней адбіваюцца на папуляцыях рэдкіх птушак, чым увосень пасля гнездавання.

- Але наш папярэдні суразмоўца пераважна вёў гаворку пра вальдшнэпа, колькасць папуляцыі якога пакуль не выклікае трывогі...

- Гэта сапраўды так. Ды і палююць на вальдшнэпа пераважна толькі ўвесну, хоць лагічным было б увосень, калі птушка найбольш тлустая. Але і тут ёсць праблемы. Страляюць і самцоў, і самак, хоць да здабычы дазволены толькі першыя; палююць, як правіла, без сабак (трэба заканадаўча забараніць паляванне на вальдшнэпа без сабак) і ў прыцемках, таму большую частку падранкаў не знаходзяць. А потым гавораць, што гэта такі спосаб зносінаў з прыродай. У Заходняй Еўропе веснавое паляванне забаронена з 1972 года і нічога.

- Канешне, цяпер яны едуць увесну да нас...

- Паверце мне, тысячы людзей у Заходняй Еўропе гатовыя плаціць грошы нават за тое, каб толькі паслухаць, як на такавішчах спяваюць глушцы і цецерукі, і пафатаграфаваць. Ды і многія заходнееўрапейскія паляўнічыя не адмовіліся б ад такога тура. Колькі разоў можна прадаць аднаго глушца паляўнічаму - аднойчы, а паказаць яго можна тысячу разоў! А хто-небудзь спрабаваў запрасіць мінчан паслухаць вясновую песню глушца? Думаю, ахвотнікаў было б не менш, чым убачыць Мірскі замак. Вось і даход для паляўнічых гаспадарак. І ў гэтым плане яны могуць выступаць нават пэўнай стрымліваючай сілай, дапамагаць ахоўваць прыроду, бо, не сакрэт, стары лес, дзе размяшчаюцца такавішчы, часцяком у нас высякаецца... Мы выступаем катэгарычна супраць палявання на вадаплаўных птушак. Паляванне на вальдшнэпа павінна праходзіць толькі з сабакам. Глушца і цецерука нельга дазваляць страляць, пакуль самкі не сядуць на гнёзды, гэта значыць да канца красавіка. Разумеем, што забараніць зусім веснавое паляванне дзяржава не ў сілах.

- Аляксандр Яўгенавіч, вядома, што на любы вызначаны ліміт здабычы спецыялістамі даецца абгрунтаванне. Калі адысці ад "птушынай" тэмы, дык наша газета нядаўна пісала, напрыклад, як па шэрагу прычын у краіне вельмі значна павялічылася папуляцыя бабра. Нават "чырванакніжніца"-рысь была нядаўна дазволена для здабычы з-за таго, што ў некаторых рэгіёнах яе колькасць істотна ўзрасла. Магчыма, у некаторых выпадках здабыча птушкі ці жывёлы ўсё ж апраўдана?

- Я нядаўна размаўляў са спецыялістам па бабрах. Напрыклад, у Эстоніі няма такой праблемы: мяса бабра ідзе ў рэстараны, попытам карыстаецца яго футра. І прырода пры гэтым не церпіць. Калі гаварыць пра рысь, дык яна была ўнесена ў Чырвоную кнігу з 1981 года. У 2004 годзе Інстытут заалогіі абгрунтаваў яе ўнясенне ў трэцяе выданне, што ўбачыла свет у 2005 годзе. А праз год той жа Інстытут заалогіі дае дазвол на здабычу рысі, матывуючы гэта яе вялікай колькасцю! Рысь - жывёла тэрытарыяльная, сумняваюся, што яе папуляцыя магла так імкліва павялічыцца ўсяго за некалькі гадоў.

- Давайце зноў вернемся да нашай тэмы. Хутка ў краіне можа пачацца паляванне на пералётных гусей...

- Гэтае паляванне я лічу цалкам амаральным і прашу вас давесці маё і не толькі маё меркаванне да грамадскасці, паляўнічых. Вясной у Беларусі страляюць гусей, што ляцяць на поўнач, прычым і самцоў, і самак. А адзінокая птушка з разбітай пары ўжо фізічна не зможа знайсці ў гэтым сезоне партнёра і не выведзе птушанят (у гусей вельмі складаная форма пошуку партнёра). Простая арыфметыка: кожны забіты ўвесну гусь - гэта на шэсць птушак менш увосень. Птушкі падчас палявання на іх не могуць у нашай краіне адпачыць, падсілкавацца. Ёсць навуковыя дадзеныя, што нават тыя гусі, якія ўсё ж даляцелі да тундры, часцяком гінуць на кладцы - ад знясілення, выкліканага стрэсам. Таму ўсе эколагі, многія паляўнічыя выступаюць за забарону веснавога палявання.

Сяргей Расолька

***Всем любителям природы***

АПБ проводит кампанию
**"Беларусь против выстрелов весной!"**

Мы собираем письма, детские рисунки и плакаты в поддержку запрета весенней охоты в Беларуси.

Основные аргументы против весенней охоты:

1. Весной стреляют птиц, переживших зимовку и готовых к размножению. Человек убивает весной взрослых птиц, и природа теряет целую семью - птенцов, которых могли бы вырастить убитые птицы.
2. Стреляя весной гусей, охотники разбивают уже сложившиеся семьи. Под выстрел попадают самки. Убивают редчайшего гуся-пискульку.
3. Стреляя уток, убивают редкие виды, занесенные в Красную книгу.
4. Весенние охоты являются мощным фактором беспокойства для других видов животных, которые выращивают потомство в этот период.

В США и Канаде весенняя охота на птиц отменена с 1913 года,
в странах Европейского Союза - с 1972 года.

В каком году будет остановлено весеннее убийство птиц - зависит от нас.

Ваши письма, рисунки и плакаты присылайте по адресу:
а/с 306, Минск, 220050
"Ахова птушак Бацькаўшчыны"

## ТЫДЗЕНЬ ПТУШАК У БРЭСЦЕ

Трэці год запар Брэсцкі абласны краязнаўчы музей адчыняе свае дзверы для ўсіх юных аматараў птушак і прыроды ўвогуле. Трэці год запар гучаць у залах музея дзіцячыя галасы і птушыныя спевы. Трэці год запар вучні з розных школ Брэста разам сустракаюць птушак, сустракаюць вясну.

Як вядома, 1 красавіка ва ўсёй Еўропе ды, напэўна, і ва ўсім свеце, адзначаецца "Міжнародны дзень птушак". Свята гэтае - свята вясны, свята паразумення чалавека і прыроды. І часцей за ўсе самымі актыўнымі ўдзельнікамі яго з'яўляюцца дзеці. У Брэсце Дзень птушак ператварыўся ў "Тыдзень птушак". У гэтым годзе - гэта агульнагарадское мерапрыемства, якое адбываецца ў трэці раз.

Арганізатарамі мерапрыемства, як заўсёды, з'яўляюцца Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне АПБ, Брэсцкі абласны краязнаўчы музей і абласны Камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У гэтым годзе да нас далучыўся і Брэсцкі абласны эколага-біялагічны цэнтр навучэнцаў.

Праграма мерапрыемстваў была асабліва насычанай і разнастайнай. Гэта экалагічныя гульні, шматлікія конкурсы і выставы, навукова-папулярная канферэнцыя і іншае. Галоўнае мерапрыемства - экалагічныя гульні-спаборніцтвы - адбываліся на працягу ўсяго тыдня. У іх прынялі ўдзел вучні з 26 школ і гімназій горада. Кожная гульня, у якой спаборнічалі па дзве каманды, складалася з 11 этапаў. На кожным з іх вучні - удзельнікі каманд - адказвалі на пытанні і выконвалі розныя заданні. Напрыклад, на першым этапе ацэньвалася ўменне каманды прадставіць сябе. На другім - "Размінцы" - трэба было з дапамогай падказак у выглядзе простых пытанняў адгадаць назвы-тэрміны. Трэці і чацвёрты этапы называліся "Поры года", і адбываліся яны ў выглядзе бліц-спаборніцтваў. На пятым - "Лепшы экскурсавод" - вучні спрабавалі сябе ў ролі гідаў-эколагаў. На шостым этапе вызначалі птушку па сілуэце, на сёмым - па голасе. На восьмым і дзесятым трэба было знайсці альбо дапісаць назвы птушак у тэксце ці вершы. Восьмы этап называўся "Творчасць", тут вучні павінны былі намаляваць плакат у абарону прыроды. Апошні - "Конкурс капітанаў" - таксама праходзіў у выглядзе бліц-спаборніцтваў, у якіх удзельнічалі толькі капітаны каманд. Нягледзячы на складаныя пытанні, большасць каманд паказалі даволі добрыя веды, а пераможцамі сталі вучні гімназіі №1 Брэста.

Акрамя экалагічных гульняў і конкурсаў, пад час "тыдня птушак" адбывалася выстава здымкаў птушак, зробленых сябрамі Заходне-Палескага аддзялення АПБ. Таксама была арганізавана навукова-папулярная канферэнцыя, прысвечаная практычным мерапрыемствам, якія ажыццяўляюць сябры аддзялення па ахове і вывучэнню птушак.

Сябры Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення прынялі самы актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах і акцыях "Тыдня птушак": ад распрацоўкі праграмы, гульняў, судзейства ўсіх конкурсаў і да ўзнагароды пераможцаў.

Акцыя суправаджалася даволі добрай піар-кампаніяй у мясцовай прэсе і на тэлебачанні.
Увогуле гэтае мерапрыемства - добры прыклад супрацоўніцтва паміж грамадскай і дзяржаўнымі арганізацыямі ў дзейнасці, накіраванай на агульную справу - экалагічную адукацыю моладзі. Разам - для птушак і людзей.

Андрэй Абрамчук,
старшыня савету Заходне-Палескага
рэгіянальнага аддзялення АПБ

## ТРЭНІНГ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ



На турбазе "Нёман", што пад Гродна, з 20 па 22 красавіка 2007 г. прайшоў адукацыйны трэнінг для студэнтаў - сябраў АПБ. Дваццаць удзельнікаў з розных ВНУ Гродна, Мінска, Гомеля і Пінска з дапамогай трэнера Вітаўта Рудніка (ГА "Трэці сектар", Гродна) разам вучыліся фасілітацыі групавых сустрэч. Аб'яднаўшыся ў групы, усе змаглі паспрабаваць свае сілы ў правядзенні абмеркаванняў з выкарыстаннем розных метадаў. А потым падзяліцца ўражаннямі пра тое, што атрымалася, а што выклікала цяжкасці, прапанаваць рэкамендацыі сваім калегам. Трэнінг адбыўся дзякуючы падтрымцы Шведскага агенцтва развіцця міжнароднага супрацоўніцтва SIDA і Шведскага арніталагічнага таварыства SOF.

Але не толькі ў правядзенні сустрэч трэніраваліся ўдзельнікі. Дзякуючы дапамозе нашых шведскіх калег са Шведскага арніталагічнага таварыства SOF (BirdLife у Швецыі) Леннарта Карлссана і Хокана Ёртмана, атрымалася паспрабаваць новую методыку ўлікаў лясных відаў птушак, паглядзець слайд-шоу "Птушкі Мексікі", а таксама паўдзельнічаць у ролевай гульні "Пасяджэнне шведскага арніталагічнага таварыства". А бурлівая неафіцыйная частка сустрэчы дапамагла бліжэй пазнаёміцца між сабой і ўзмацніць сяброўства не толькі ў АПБ, але і паміж удзельнікамі.

Дзмітры Вінчэўскі

## АДУКАЦЫЯ РАЗАМ!

4 красавіка адбыўся семінар-практыкум "Развіццё здольнасцяў навучэнцаў да даследчай і доследнай працы", арганізаваны Упраўленнем адукацыі Гродзенскага аблвыканкама і Гродзенскім дзяржаўным аграрным універсітэтам на базе апошняга. На яго былі запрошаны прадстаўнікі дзяржаўных установаў з усіх раёнаў Гродзенскай вобласці і абласнога цэнтра, якія займаюцца арганізацыяй даследчай працы навучэнцаў.

Прыемна адзначыць, што з 9 выступоўцаў, якім папярэдне былі замоўленыя даклады і прэзентацыі, тры чалавекі прадстаўлялі, акрамя дзяржаўнай установы, яшчэ і АПБ, і распавялі аб сваім супрацоўніцтве з ёй. Гэты былі Віталь Гуменны (сябра Рады Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ), Аляксандр Ясевіч (сябра АПБ са Смаргоні) і Наталля Белуш (сябра Рады Навагрудскага раённага аддзялення АПБ). Акрамя іх пра АПБ, методыку даследаванняў на "Дзікіх квадратах" і праект TACIC расказаў прысутным Дзмітры Вінчэўскі (старшыня Рады Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ).

Прадстаўнікам раёнаў былі раздадзены кнігі "Зачем нужны заповедники…", плакаты і іншая прадукцыя "Аховы птушак", падрыхтаваная ў рамках праекту TACIC "Укараненне вопыту Еўрасаюза па зберажэнню запаведнікаў і заказнікаў у супрацоўніцтве з мясцовым насельніцтвам і ўладамі".

Спадзяемся, што паспяховы вопыт супрацоўніцтва дзяржаўных адукацыйных устаноў з нашай арганізацыяй зможа дапамагчы і ў актывізацыі падтрымкі навучэнцаў, якія ўжо займаюцца ці яшчэ будуць займацца даследчай дзейнасцю.

Дзякуем Наталлі Машанавай, кіраўніку аддзела ВНУ і ССУЗ упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама, за запрашэнне на семінар.

# ПУСТЕЛЬГА - В ПОЛЬШЕ И В БЕЛАРУСИ

31 марта 2007 года в польском городе Седльце прошла научно-практическая конференция, посвященная охране пустельги (Falco tinnunculus). В конференции принял участие и представитель АПБ Руслан Шайкин.

"Пустельга является видом, которому человек может очень эффективно помочь. Установка гнездовых ящиков способствует увеличению популяции, что видно по результатам многолетней работы коллектива орнитологов из общества "Bocian". В 2006 году гнездовые ящики заняли 97 пар этого вида!" - рассказал в своем выступлении один из организаторов конференции, вице-президент общества охраны природы "Bocian" Мирослав Жемпала. Ежегодно членами общества и лесниками строятся и развешиваются сотни искусственных гнездовий, и только в 2006 году их было сделано 602! В Беларуси, к сожалению, количество развешанных искусственных гнездовий для пустельги исчисляется единицами. Такая деятельность сегодня известна только в Бресте и городском поселке Мачулищи, что под Минском.

"На восточной окраине г.п. Мачулищи Минского района в сосновом бору находится локальное поселение пустельги, состоящее из 6-8 пар. Все обнаруженные гнезда располагаются в кронах сосен. По предварительным данным, это единственная естественная колония пустельги, как минимум, в Минской области. Для ее сохранения необходимо сохранить сосновый бор, что возможно при создании заказника. Общественной организацией "Ахова птушак Бацькаўшчыны" подготовлен проект по сохранению колонии пустельги через придание данной территории статуса специализированного заказника для этого вида птиц", - сообщил в своем выступлении Руслан Шайкин. Любопытно, что колонию пустельги первыми обнаружили школьники из детского клуба АПБ "Биоразнообразие", функционирующего на основе Минской районной базы юных туристов. В клубе и родилась идея создания заказника.

Опыт АПБ показывает, что силами активных детских объединений вполне возможно провести работу по выявлению колоний пустельги, а также провести учеты сокола, изготовить искусственные гнездовья. А организация специализированного заказника станет хорошим опытом действенной помощи для этого изящного сокола.

# НОВЫЯ ЛЕТНІКІ

Летнікі для старшакласнікаў "Юны бёдуотчар-III" і кіраўнікоў клубаў АПБ "Крылаты дазор" "Ад роўнага да роўнага-II" адбудуцца ў гэтым годзе прыкладна з 6 па 15 ліпеня. Праграма кожнага з іх разлічана на 5 дзён, плануемае месца правядзення - г.Тураў (Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.), якое, аднак, вызначана пакуль не канчаткова. Летнікі адбудуцца дзякуючы падтрымцы Шведскага орніталагічнага таварыства SOF і Шведскага агнецтва па развіццю міжнароднага супрацоўніцтва SIDA.

Больш падрабязная інфармацыя з дакладнымі тэрмінамі, месцам правядзення і ўмовамі адбору ўдзельнікаў будзе размешчана ў чэрвені на сайце АПБ **/www.ptushki.org/**



Фота Ігара Бышнёва

# НАЧНЫЯ ЖЫХАРЫ ЛЯСОЎ - ЮЗЭФІН 2007

"Начныя жыхары лясоў" - менавіта пад такой назвай на тэрыторы Пружанскага раёна, у ваколіцах знакамітага балота і ТВП Дзікае, адбыўся палявы летнік для старшакласнікаў і студэнтаў - сябраў АПБ. Летнік быў арганізаваны сябрамі Заходне-Палес-кага рэгіянальнага аддзялення ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" пры падтрымцы Шведскага арніталагічнага таварыства (SOF) і Шведскага агенцтва па міжнароднаму развіццю SIDA. Асноўная мэта летніка - назіранне і вывучэнне таямнічага свету начных жывёл, у прыватнасці птушак з атраду соў, а таксама выраб і развешванне штучных гнездавых скрыняў для гэтых птушак.

Летнік праходзіў пад час школьных канікул, з 28 сакавіка па 1 красавіка. На працягу 5 дзён і начэй удзельнікі вывучалі таямнічы свет начных птушак, рабілі выправы на балота Дзікае, у навакольныя лясы і вёскі. Пад час летніка яго ўдзельнікі назіралі 6 з 9 гняздуючых на поўдні Беларусі відаў соў, большасць з якіх з'яўляюцца вельмі рэдкімі і занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі: пугач, вераб'іны і касматаногі сыч, сыч-сіпель, вушастая сава, барадатая кугакаўка. А на адной з выспаў на балоце, ў гнязде чорнага бусла, удзельнікамі летніка была знойдзена кладка пугача.

На ўсёй тэрыторыі Беларусі гняздуе 11 відаў соў. Акрамя вышэй адзначаных самы звычайны від - шэрая кугакаўка, рэдкія віды - сіпуха, балотная сава, даўгахвостая кугакаўка і сплюшка. Апошнія два віды на поўдні нашай краіны не сустракаюцца. Таму 6 з 9 магчымых - даволі добры вынік, які падкрэслівае выключную важнасць балотнага масіву Дзікае і навакольных лясоў для захавання біяразнастайнасці краіны.

Падобнае мерапрыемства сябры Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення арганізуюць трэці год запар, і яно ўжо становіцца традыцыйным. Але мінулыя два разы летнік праводзіўся на поўдні "Белавежскай пушчы" ў ваколіцах в. Дзедаўка. Сёлета летнік быў наладжаны ў ваколіцах Дзікага дзеля таго, каб яго ўдзельнікі змаглі паназіраць за адной з самых рэдкіх птушак Беларусі - барадатай кугакаўкай. Балота Дзікае - адно з нешматлікіх месцаў у нашай краіне, дзе гэты від птушак гняздзіцца. Але за пяць дзён толькі аднаму удзельніку летніка пашанцавала ўбачыць гэту вельмі рэдкую птушку.

Акрамя назіранняў за птушкамі і выпраў на балота і ў лес, удзельнікі летніка займаліся вырабам і размяшчэннем гнездавых скрынь для соў і іншых птушак: усяго было выраблена каля 20 скрыняў, і палова з іх размешчана ў навакольных лясах і на выспах пасярод балота. І ёсць сур'ёзныя падставы на тое, што некалькі птушыных сем'яў будуць забяспечаны "жыллёвай плошчай", а значыць, будуць гадавацца маладыя сычы, кугакаўкі і іншыя птушкі. І нашыя нашчадкі таксама змогуць сустрэць іх у дзікай прыродзе. А вучні і іншыя ўдзельнікі летніка ніколі не знішчаць птушынае гняздо ці старое дуплістае дрэва, бо разумеюць і памятаюць сваё непасрэднае дачыненне да аховы прыроды!

Андрэй Абрамчук,
старшыня савету Заходне-Палескага
рэгіянальнага аддзялення АПБ

# ЯК ПТУШАК ЛІЧЫЦЬ?

14-15 красавіка ў Кобрыне адбыўся семінар АПБ, прысвечаны пачатку маніторынгу ў Беларусі звычайных гняздуючых відаў птушак. Сябры АПБ з Багушэўска, Барысава, Брэста, Гродна, Кобрына, Магілёва, Мінска, Мікашэвічаў, Слоніма, Слуцка, а таксама з Навагрудскага, Мастоўскага і Шумілінскага раёнаў абмяркоўвалі методыку правядзення маніторынга, закладку даследчых квадратаў і трансэктных ліній у іх, магчымыя тэрміны і формы справаздачы.

Пасля дэталёвага азнаямлення з інструкцыямі па правядзенню даследаванняў, у палявых умовах недалёка ад Кобрына адбылася спроба закладкі даследчага квадрата і трансэктаў, пробныя ўлікі птушак. Цікава, што, акрамя сапраўды звычайных для адкрытых сельгасландшафтаў відаў, такіх як палявыя жаўрукі, кнігаўкі, шпакі ды інш., атрымалася ўбачыць шуляка-карагольчыка, малога арляца і пралятаючых ва ўсходнім кірунку 18 шэрых жураўлёў.

На наступным этапе семінару абмяркоўваліся магчымыя цяжкасці і планы на бліжэйшую будучыню маніторынгу. Рэгіянальныя лідэры былі згодныя: праект гэты важны і неабходны, таму дадатковыя ўдзельнікі з усіх рэгіёнаў Беларусі запрашаюцца да ўдзелу ў ім.

Семінар быў праведзены дзякуючы падтрымцы Шведскага арніталагічнага таварыства SOF і Шведскага агенцтва развіцця міжнароднага супрацоўніцтва SIDA.

Дзякуем Віктару Ліхвану і Алегу Кальчанку (АПБ, Кобрын) за дапамогу ў арганізацыі і правядзенні семінару.

Дзмітры Вінчэўскі

# ВЯСНА ІДЗЕ - ВЯСНЕ ДАРОГУ!

26 красавіка ў рамках веснавога тыдня дабра Заходне-Палескім аддзяленнем АПБ сумесна з аддзелам выхаваўчай працы Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна была праведзена акцыя "Вясна ідзе - вясне дарогу!"

Акцыя была накіравана на прыцягненне ўвагі моладзі да актыўнай аховы прыроды, а таксама на прапаганду здаровага ладу жыцця. Кожны жадаючы студэнт альбо супрацоўнік універсітэта мог унесці свой пасільны уклад у справу дапамогі братам нашым меншым. Актывісты Заходне-Палескага аддзялення АПБ на заднім двары універсітэта будавалі штучныя скрыні для птушак розных відаў і запрашалі ўсіх жадаючых далучыцца да гэтай справы.

Як вядома, амаль усе птушкі-дуплагнёзднікі адчуваюць недахоп ва ўласнай "жыллёвай плошчы", таму дапамога чалавека тут заўсёды дарэчы. Кожны жадаючы мог палепшыць "жыллёвыя умовы" нашых птушак, пабудаваўшы птушыную кватэру. Разам з гэтым удзельнікі акцыі спрабавалі адвабіць моладзь ад палення цыгарэт і з лозунгамі "Забей и не кури" прапанавалі забіць цвікі ў будучыя птушыныя кватэры і кінуць паліць. За пяць гадзін працы папрацавалі малаткамі і піламі больш за дваццаць студэнтаў, выкладчыкаў і супрацоўнікаў універсітэта. Яшчэ некалькі людзей з цікавасцю назіралі за акцыяй з боку. За гэты час было пабудавана каля дзесяці скрынак для пустальгі, сініц, шпакоў, сіпухі, валасяніц.

Усе створаныя дамкі хутка зоймуць свае месцы ў скверах і парках нашага горада і яго ваколіц. Дзякуем арганізатарам і актыўным удзельнікам акцыі: Аляксандру Сербуну, Аляксандру Мінічу, Уладзіміру Шуцееву, Вадзіму Пракапчуку, Аляксандру Страчуку і іншым.

# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЛЮБЛІНЕ

Як вядома, прырода, і асабліва птушкі, не мае межаў. Таму міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне аховы прыроды і навакольнага асяроддзя - рэч вельмі патрэбная і нават неабходная. Калі мой сябра Кшыштаф Вайцэхоўскі запрасіў мяне на канферэнцыю Люблінскага арніталагічнага таварыства (LTO), якая павінна была адбыцца 14-15 красавіка ў Любліне, я зразумеў, што гэта, бадай, найлепшая нагода пазнаёміцца з калегамі-арнітолагамі з-за Буга - найбліжэйшымі нашымі суседзямі, даведацца аб іх справах, ды аб сваіх расказаць па магчымасці...

Цікава было ўсё! Людзі і атмасфера, якая панавала ў зале, справы і актыўнасці, даследаванні і справаздачы. Нават паназіраць такую справу, звычайна даволі руцінную, як змена статута, было цікава, таму што неаднаразова ўдзельнічаў у падобных АПБ-эшных рэчах. І тут спадабалася згода і простая атмасфера ў зале. Нават калі ўзнікалі спрэчкі, кампраміс заўсёды знаходзілі. Шмат чаго было знаёма: і агульнае разуменнне неабходнасці змен, і кансерватызм больш сталых людзей, і праблемы з сябрамі і сяброўствам...

Сярод іншага ўразіла шматлікасць прысутных на канферэнцыі, да таго ж у абсалютнай большасці моладзі і людзей сталага ўзросту - мужчын. Гэта, з аднаго боку, добра, бо з такімі людзьмі можна сапраўды, як кажуць, "горы звярнуць". З другога боку, калі няма падлеткаў і дзяцей, няма будучага!

Распачалася канферэнцыя справаздачай Рады якую прадставіў старшыня таварыства Гжэгаж Гжывачэўскі (Grzegorz Grzywaczewski). Затым былі разгледжаны прапановы па змене статуту арганізацыі, а пасля гучалі даклады, прысвечаныя ахове і вывучэнню птушак. Анджэй Ралыцкі (Andrzej Rolycki) цікава расказаў аб вывучэнні арабкоў у Парчэўскіх лясах, Корнел Каспэрэк (Kornel Kasperek) - аб водна-балотных птушках даліны Ніжняга Вепжа (Wieprza) і сажалках ваколіц Собешына (Sobieszyna). Вельмі спадабалася выступленне пана Марэка Келера (Marek Keller) аб зменах колькасці гняздуючых драпежных птушак у Парчэўскіх лясах.

З прэзентацыі Роберта Рудольфа (Robert Rudolf) цікава было даведацца аб тым, як праводзяцца арніталагічныя летнікі ў нашых суседзяў - справа, знаёмая і нам. Вельмі карыснай і яркай была прэзентацыя пана Славаміра Снопека (Slawomir Snopek), прысвечаная праграме аховы сіваграка не толькі ў Польшчы, а і ў Аўстрыі.

Давялося і нам выступіць перад паважанай аўдыторыяй. Спадзяюся, не пакінула прысутных абыякавымі маё апавяданне аб АПБ, Заходне-Палескім аддзяленні і нашых справах. Безумоўна, карысным было апавяданне Вадзіма Пракапчука аб сумесным праекце "Прырода аб'ядноўвае людзей", што дала магчымасць абдумаць і спланаваць план сумеснай працы і мерапрыемстваў у рамках праекту. Напрыканцы канферэнцыі гучалі ўзаемныя словы падзякі і надзеі на будучае супрацоўніцтва. А на наступны дзень была магчымасць наведаць Палескі нацыянальны парк (Poleski Park Narodowy), якой мы, канешне ж, скарыстался.

Андрэй Абрамчук



# САЛАВЕЙ - ПТУШКА 2007 ГОДА

26 сакавіка 2007 года Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь увяло ў афіцыйнае карыстанне марку "Усходні салавей" са штогадовай серыі "Птушка года". Яе падрыхтаваў выдавецкі цэнтр "Марка" РУП "Белпошта".




У дзень выхада маркі на Мінскім паштамце праводзілася адмысловае гашэнне на канвертах "Першага дня". Праз нейкі час іх можна будзе набыць у філатэлістычных крамах па ўсёй Беларусі.

Марка падрыхтавана пры садзейнічанні нашай арганізацыі. Аўтар малюнкаў салаўёў для маркі, адмысловага штэмпеля і канверта "Першага дня" - сябра АПБ мастак-анімаліст Аляксандр Міцянін.

Марку і блок з іх, канверт і адбітак адмысловага штэмпелю "Першага дня" можна паглядзець на сайце /Www.belpost.by/stamps/.

# САМЫ ПЕРШЫ!

18 красавіка Мікалай Лаўнікові (старшыня рады Лунінецкага раённага аддзялення АПБ) адзначыў і пачуў першага ў гэтым годзе салаўя - птушку 2007 года. Адбылося гэта ў Брэсцкім раёне каля санаторыя "Берасьце" на канале паміж аз. Рагазянскім і Белым. Мікалай здолеў падысці да спевака і добра яго разгледзець нават у паўзмроку.



# БЛІСКУЧАЯ ПЕРАМОГА Ў СУДЗЕ!

Грамадскія арганізацыі "Экаправа-Кіеў" і Кіеўскі эколага-культурны цэнтр (КЭКЦ) атрымалі бліскучую перамогу ў судзе над Мінпрыроды і Дзяржлесгасам Украіны . 18 красавіка 2007 г. вырашылася судовая цяжба, якая пачалася паўтара гады таму.

Кіеўскі апеляцыйны гаспадарчы суд задаволіў галоўнае патрабаванне заяўнікаў, а менавіта "прызнаць, што Мінпрыроды і Дзяржкамлесгас Украіны парушаюць Закон Украіны "Аб жывёльным свеце", таму што не вядуць кадастар жывёльнага свету.

Акрамя гэтага, баючыся пройгрышу ў судзе, Дзяржкамлесгас Украіны добраахвотна задаволіў судовае патрабаванне грамадскіх арганізацый і адмовіўся ад правядзення палявання на чатыры віды птушак, якія ўнесены ў спіс "паляўнічых": курапаткі-кекліка, чаротніцы (водяной курочки), вадзянога пастушка і чубатай коўры, таму што ў парушэнне закону іх адстрэл праводзіўся без папярэдняга падліку іх колькасці і ўлікаў здабытых птушак. Такім чынам, гэтыя чатыры віды птушак выратаваны ад паляўнічых.

Мы віншуем трох мужных прадстаўнікоў прыродаахоўных арганізацый, якія ў цяжкай барацьбе ўрэшце адстаялі правы дзікай пыроды. Гэта Барыс Васількоўскі (кіраўнік "Экаправа-Кіеў"), Галіна Прысцінская (юрыст "Экаправа-Кіеў") і Уладзімір Барэйка (дырэктар Кіеўскага эколага-культурнага цэнтру).

Прэс-служба КЭКЦ
Крыніца: www.greenkit.net



# ВЫРАТУЕМ АЛЬБАТРОСАЎ

Каля 100 000 альбатросаў гіне кожны год ад рыбалоўных кручкоў пры прамысловай здабычы траскі з выкарыстаннем закідных лінеў. Птушкі забіваюцца ў такой вялікай колькасці, што зараз 19 з 21 відаў альбатросаў знаходзяцца пад пагрозай знікнення. Рыбалоўныя траулеры выстаўляюць закідныя ліні (доўгі трос, да якога прымацаваныя кручкі), якія цягнуцца за караблём аж да 130 кіламетраў. На кожным ліні знаходзіцца дзесяткі тысяч кручкоў з нажыўкай з кальмараў ці рыбы. Гэтая нажыўка прываблівае альбатросаў, якія трапляюць на кручкі і тонуць.

Альбатросы асабліва пакутуюць ад прамысловых закідных лінеў. Яны не могуць размнажацца дастаткова хутка, каб кампенсаваць страты. Іншыя віды птушак з іншымі жыццёвымі цыкламі могуць выжыць. Але альбатросы - не. Яны маюць спецыфічную біялогію. Гэта вельмі доўгажывучыя птушкі, некаторыя альбатросы жывуць да 60 гадоў. Яны прыступаюць да размнажэння толькі пасля поўнага сталення, што ў некаторых відаў займае 12 год. Альбатросы выводзяць толькі адно птушаня за год, а некаторыя віды размнажаюцца толькі кожны другі год.

За час, які спатрэбіўся табе, каб прачытаць гэты артыкул, на рыбалоўных кручках загінуў 1 альбатрос. Стань удзельнікам кампаніі BirdLife International "Выратуем альбатросаў" і дапамажы захаваць гэтых цудоўных птушак. Для гэтага акуратна выражы і збяры маркі з канвертаў, якія да цябе прыходзяць. Вышлі іх на адрас АПБ. Мы перададзім іх нашаму партнёру - Каралеўскаму таварыству аховы птушак (RSPB, Вялікабрытанія), якое каардынуе кампанію "Выратуем альбатросаў". Грошы, зробленыя ад продажу марак, пойдуць на фінансаванне кампаніі па выратаванні альбатросаў - выпрацаванне новых бяспечных метадаў рыбнай лоўлі, барацьбе з браканьерствам, кампаніі па спыненні лоўлі з выкарыстаннем прамысловых закідных лінеў.

Віктар Фенчук
Ілюстрацыі з альбатросамі
**http://www.savethealbatross.net/images.asp**

Каля адной тысячы паштовых марак ужо перададзена Каралеўскаму таварыству аховы птушак (RSPB, BirdLife у Вялікабрытаніі) у рамках акцыі па захаванню альбатросаў. Большасць з іх склалі маркі, якія некалькі гадоў збіраў офіс АПБ. Маркі выразаліся з канвертаў, якія вы дасылалі нам. Такім чынам усе, хто нам пісаў, сталі ўдзельнікамі гэтай акцыі.

Акрамя "офісных", у Англію паехалі і маркі, якія прынеслі Віктар Фенчук (дырэктар АПБ) і Аляксандр Шумаў (сябра АПБ з Мінску).



**На малюнку: як трэба выразаць маркі!**

## КРАСНАЯ КНИГА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ В ИНТЕРНЕТЕ

Завершилась работа над созданием Интернет-версии национальной Красной книги, осуществленная при поддержке проекта программы развития ООН (ПРООН) и Глобального экологического фонда (ГЭФ) "Создание условий для устойчивого функционирования системы охраняемых водно-болотных угодий в Белорусском Полесье" в тесном взаимодействии с Министерством природных ресурсов и охраны окружающей среды, общественной организацией "Ахова птушак Бацькаўшчыны", Королевским обществом защиты птиц (RSPB), институтами зоологии и ботаники Национальной Академии наук Республики Беларусь и компанией "МедиуМ".

Интернет-версия Красной книги Республики Беларусь http://redbookbel.net включает два раздела: растения и животные. На ресурсе можно найти подробную информацию о 477 видах редких и исчезающих животных и растений, сопровожденную фотографиями, рисунками и картами. Для каждого вида приведены сведения о распространении, биологии, численности, причинах изменения численности и ареала, принятых и необходимых мерах охраны.

На сайте также размещены списки исчезнувших животных и растений ("черный список") и списки животных и растений, требующих профилактической охраны.

источник: http://news.tut.by/it/80662.html

## КОЛЬКІ ПТУШАК У ЕЎРОПЕ?

**Трэнды колькасьці 124 відаў птушак у 20 краінах Еўропы можна паглядзець у Інтэрнеце.** З сённяшняга дня на сайце EBCC - Еўрапейскай Рады па ўліках птушак (European Bird Census Council) па адрасе **http://www.ebcc.info/pecbm.html** будуць даступныя трэнды і індыкатары колькасьці для 124 еўрапейскіх відаў птушак з 20 краін нашага кантыненту. Дадзеныя ахопліваюць 25-гадовы пэрыяд - з 1980 па 2005 гг. Для некаторых краін будуць даступныя дадзеныя нават за 1960-я гг. На працягу некалькіх апошніх гадоў EBCC разам з BirdLife International працуюць над арганізацыяй і правядзеннем Пан-Еўрапейскага маніторынгу звычайных відаў птушак (The Pan-European Common Bird Monitoring (PECBM)) для выпрацоўкі надзейных індыкатараў становішча навакольнага асяроддзя.

У гэтым годзе да яго далучаюцца Беларусь (праз АПБ - BirdLife ў Беларусі), Македонія, Румынія, Турцыя і Літва.

## ШВЕДСКА-ЛАТВІЙСКА-БЕЛАРУСКІ САЙТ БЁРДУОТЧЭРАЎ

З восені 2006 г. існуе Шведска-Латвійска-Беларускі сайт рэгіянальных груп бёрдуотчэраў - **http://www.putni.se/.** З'явіўся сайт пасля сустрэчы аматараў назіранняў за птушкамі з трох краін, з розных рэгіянальных груп летам 2006 г. у Латвіі. Беларусь прадстаўлялі сябры АПБ: Андрэй Абрамчук з Заходне-Палескага аддзялення, Інэса Зеніна з Турава і Сямён Левы з Барысава. Працоўная мова сайта - англійская. На сайце вы знойдзеце справаздачы аб паездках, фотагалерэю, вынікі назіранняў, слоўнік назваў птушак (але пакуль беларускіх назваў няма) і інш. Існуе асобны раздзел, прысвечаны амялушкам (дзе і колькі іх зімуе). Яшчэ ёсць час занесці свае дадзеныя - зрабіць гэта зусім проста. З надыходам вясны карыстальнікі гэтага Інтэрнэт-рэсурса будуць сачыць за прылётам некаторых відаў птушак.

Стваральнікі сайта запрашаюць і іншыя рэгіянальныя групы да супрацоўніцтва.

## "ЗАЧАРОВАННЫЕ БОЛОТА" НА НАШИХ ЭКРАНАХ



В 2006 году киногруппа Белорусского видеоцентра (режиссер Игорь Бышнев) работала над очередным фильмом из цикла "Природа Беларуси" - "Зачарованные болота". Съемки проводились в основном на верховых болотах Витебщины. Удалось снять поведение глухарей на току, воробьиного сычика, среднего кроншнепа, бородатую неясыть, волка, медведей... Снимали также изуродованные мелиорацией болота в разных районах Беларуси. Были в гостях у женщин Столинского района, живущих сборами клюквы. В Национальном фото- и киноархиве нашли старые документальные фильмы о мелиорации белорусских болот. Особую благодарность авторы "Зачарованных болот" выказывают сотрудникам заказника "Красный Бор", Березинского заповедника и лично членам АПБ Николаю Черкасу, Александру и Владимиру Козулиным. Фильм был завершен в конце прошлого года и, как обычно, представлен белорусским телеканалам и фестивалям экологического кино. Кроме того, впервые фильм подобного рода был рекомендован Минкультуры РБ для широкого кинопроката. Надеемся, что у любителей природы будет возможность посмотреть этот фильм и на экранах кинотеатров. "Зачарованные болота", как и предыдущие фильмы, будут скопированы на DVD для региональных отделений АПБ.

На фестивалях белорусское документальное анималистическое кино в этом году представляли цикл фильмов "Чернобыльские джунгли. 20 лет без человека" и 26-минутная лента "Аисты Ровбицка", снятая в небольшой деревушке возле Беловежской пущи с самой активной помощью орнитологов - членов АПБ Николая Черкаса и Андрея Абрамчука. Последний фильм оказался интересен не только любителям природы, но и широкому кругу обычных "киношников". Он был отмечен призами на "Золотом Витязе" в России и признан лучшим экологическим фильмом на Этнофестивале в Румынии.

"Чернобыльские джунгли..." показывались очень широко и практически всюду получали фестивальные награды: "Гран-при" 3-го Минского международного кинофестиваля "Экофильм", "Золотая гагара" за лучшее авторское кино X Международного телевизионного экологического фестиваля "Спасти и сохранить" (Ханты-Мансийск, Россия), 1-е место в номинации "Научно-популярная и познавательная телепрограмма" на телефоруме "Вместе" (Ялта, Украина), специальные призы фестивалей в Италии и Эстонии. Последняя награда - Специальная премия Президента РБ - была вручена авторскому коллективу 8 января 2007 года. Кстати, это уже вторая президентская премия для анималистического кино Беларуси. Говоря спортивным языком, абсолютный рекорд.

В 2007 году Министерство культуры РБ заказало киногруппе И.Бышнева два фильма с рабочими названиями "Великая река" и "Тропой волка". Кроме того, белорусские киноанималисты будут продолжать "болотную" тему в рамках проекта по восстановлению осушенных болот.

## ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

28 лютага былі падведзены вынікі XVIII Рэспубліканскага конкурса навуковых біёлага-экалагічных работ навучэнцаў. Сярод пераможцаў былі і сябры АПБ. Вячаслаў Астапук з Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення атрымаў Дыплом II ступені за даклад "Постгнездовая миграция куликов на малых водоёмах г. Кобрина", навуковы кіраўнік Сямён Левы.

Уладзіслаў і Артур Гаўрусікі з Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ таксама атрымалі Дыпломы II ступені за даклад "Гнездование малой крачки и попытка спасения её колонии на рыбхозе у д. Коробчицы", навуковы кіраўнік Віталь Гуменны. Андрэй Бейнер і Юлія Петухова з Барысава атрымалі Дыпломы I ступені за даклад "Влияние выпаса крупнорогатого скота и периодических затоплений на видовой состав напочвенных беспозвоночных естественных лугов", навуковы кіраўнік Галіна Земаглядчук.

Акрамя таго, усе ўдзельнікі канферэнцыі з дакладамі аб птушках атрымалі ад АПБ спецыяльныя прызы.

Віншуем!

## ДА АПБ - З НОВАЙ АНКЕТАЙ!

Выйшла новая каляровая сяброўская анкета нашай арганізацыі.

Анкета ўяўляе сабой каляровы буклет на некалькіх старонках. Інфармацыя падзелена на блокі: "Пра АПБ", "Чаму птушкам патрэбна наша дапамога", "Што мы робім для таго, каб захаваць птушак", "Напрамкі дзейнасці, на якія вы можаце зрабіць ахвяраванне", "Што атрымліваюць сябры АПБ".

Сама анкета адрыўная (частка-анкета з асабістымі дадзенымі запаўняецца і дасылаецца ў офіс нашай арганізацыі, а буклет з карысной інфармацыяй застаецца новаму сябру АПБ). Усе фота, якія размешчаны ў анкеце, зроблены сябрамі АПБ. Адну ці некалькі новых анкет можна замовіць па тэлефоне (017) 263-06-13.

***Сябрам АПБ!***
*Нагадваем, што памер*
***гадавога** ўзносу наступны:*
*асабісты - 10000 рублёў;*
*сямейны - 11000 рублёў;*
*ільготны (студэнты і інш.) - 7000 рублёў;*
*сябра клуба "Рэдкая птушка" - 20000 рублёў;*
*сябра клуба "Крылаты дазор" - 1000 рублёў;*
*кіраўнік клуба "Крылаты дазор" - 7100 рублёў;*
*сябра "Клуба200" - 2000 рублёў.*
*Дадатковы неабавязковы ўзнос:*
*навуковы (+ навуковы журнал SUBBUTEO) - 2500 рублёў.*
*Кожны сябра АПБ атрымлівае за год сяброўскую картку, налепку, плакат, інфармацыйны бюлетэнь (чатыры выпускі), 2 часопіса "Птушкі і мы".*

**Увага!**
Узносы можна пералічыць паштовым пераводам у любым паштовым аддзяленні на наш банкаўскі рахунак:
**Грамадская арганізацыя « Ахова птушак Бацькаўшчыны» Р/р 301 501 355 0019 ААТ "Белпрамбудбанк", філіял па Мінскай вобласці код 331. УНП 101546170, АКПА 37527794.**

## КНИГА АПБ "ЗАЧЕМ НУЖНЫ ЗАПОВЕДНИКИ..."

"Зачем нужны заповедники, или 129 вопросов об особо охраняемых природных территориях Беларуси (ООПТ)" - именно так называется книга, которая была подготовлена в рамках проекта "Внедрение опыта Евросоюза по сохранению заповедников и заказников в сотрудничестве с местным населением и властями". Авторы книги: А.Е.Винчевский, И.И.Бышнев, В.А.Фенчук. В книге в доступной для школьников форме рассказывается о типах существующих особо охраняемых природных территорий, чем они отличаются друг от друга, зачем нужны. Приведены факты из истории заповедного дела, белорусской и мировой статистики.

Книга бесплатно передается людям, которые работают с детьми (клубам АПБ "Крылатый дозор" и работающим по программе "Дикий квадрат").

Книгу можно получить и в офисе АПБ.

## ВНИМАНИЕ! АПБ ГОТОВИТ НОВЫЙ ОПРЕДЕЛИТЕЛЬ

В этом году планируется издание нового полевого определителя птиц Беларуси. АПБ готовит его совместно с издательством "Рифтур". В основе определителя будут цветные фотографии птиц. Фотографии будут отбираться редакционной коллегией издания и его художественным редактором на конкурсной основе.

Если вы хотите принять участие в издании определителя, присылайте контрольки (снимки небольшого формата или файлы) птиц Беларуси на адрес АПБ с пометкой "Определитель птиц Беларуси". Издательство "Рифтур" выплатит гонорары по установленным расценкам всем авторам снимков, отобранных для печати. А издание, надеемся, будет интересным и полезным для всех любителей природы.

Внимание! Статьи и фотографии для публикаций в бюллетене №3 (30) за 2007 год присылайте на адрес АПБ или по e-mail: byshnev@tut.by до 1сентября 2007 года.

**Сайт АПБ: www.ptushki.org**




**АПБ з'яўляецца партнёрам глабальнай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International у Беларусі**




- Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
- Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь "Ахова птушак Бацькаўшчыны", АПБ
- Галоўны рэдактар: Уладзімір Іваноўскі
- Рэдакцыйная рада: Ігар Бышнёў (адказны рэдактар), Аляксандр Вінчэўскі, Сяргей Зуёнак, Віктар Фенчук, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін
- Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі
- Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна - далучайцеся да сяброў АПБ
- Калі Вы жадаеце стаць сябрам АПБ, тэлефануйце нам ці прыходзьце да нас: г. Мінск, вул. Макаёнка 8, пак. 42.
- Наш паштовы адрас: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь Тэл./Факс: 017-263 06 13; E-mail: APB@tut.by